# ПАСЛАННЕ ДА ФІЛІПЯНАЎ

## 1 (1-30)

1Павел і Цімафей, слугі Езуса Хрыста, усім святым у Хрысце Езусе, якія
знаходзяцца ў Філіпах, разам з біскупамі і дыяканамі: 2ласка вам і спакой ад
Бога Айца нашага і Пана Езуса Хрыста. 3Дзякую Богу майму пры кожнай
згадцы пра вас. 4Заўсёды кожную малітву сваю за ўсіх вас з радасцю ўзношу,
5за ваш удзел у абвяшчэнні Евангелля з першага дня аж дагэтуль. 6Упэўнены,
што той, хто пачаў у вас добрую справу, закончыць яе да дня Езуса Хрыста. 7І
гэта справядліва для мяне – так думаць пра ўсіх вас, бо я маю вас у сэрцы
[сваім], і вы ўсе мае саўдзельнікі ў ласцы маёй, у кайданах маіх, у абароне і ва
ўмацаванні Евангелля. 8Бог — мой сведка, што я люблю ўсіх вас любоўю Езуса
Хрыста. 9І малюся за тое, каб любоў вашая яшчэ больш узрастала ў пазнанні і
ва ўсякім адчуванні, 10каб вы пазнавалі лепшае, каб вы былі справядлівымі і
беззаганнымі ў дзень Хрыста, 11напоўненымі пладамі справядлівасці праз Езуса
Хрыста дзеля славы і хвалы Божай.

12Хачу, браты, каб вы ведалі, што ганенне маё паспрыяла яшчэ большаму
пашырэнню Евангелля. 13Так што кайданы мае сталі бачнымі ў Хрысце ва ўсёй
прэторыі і сярод усіх іншых. 14Праз гэта многія з братоў у Пану, перакананыя
маімі кайданамі, яшчэ больш адважыліся бясстрашна абвяшчаць слова.
15Некаторыя, праўда, ад зайздрасці і дзеля спрэчкі абвяшчаюць Хрыста, іншыя
ж – з добрай волі. 16Гэтыя астатнія [робяць гэта] з любові, бо ведаюць, што я
дзеля абароны Евангелля пастаўлены. 17Тыя ж дзеля звады прапаведуюць
Хрыста няшчыра, з намерам зрабіць мае кайданы яшчэ цяжэйшымі. 18Дык што?
Усялякім чынам, ці то дзеля выгляду, ці то праўдзіва, абвяшчаецца Хрыстус. І я
гэтаму радуюся, і буду радавацца. 19Бо ведаю, што гэта прывядзе мяне да
збаўлення праз вашую малітву і дапамогу Духа Езуса Хрыста, 20паводле
чакання і надзеі маёй, што я ні ў чым не буду асаромлены. Але з поўнай
адвагай, як заўсёды, так і сёння, узвялічаны будзе Хрыстус у целе маім ці праз
жыццё, ці праз смерць.

21Бо для мяне жыццё – гэта Хрыстус, а смерць – гэта выгада. 22А калі
жыццё ў целе – гэта для мяне плён працы, то не ведаю, што выбраць. 23Вабіць
мяне і тое, і другое: маю жаданне памерці і быць з Хрыстом, бо гэта значна
лепш; 24але заставацца ў целе больш патрэбна для вас. 25Перакананы ў гэтым, я
ведаю, што застануся і буду з вамі дзеля вашага поспеху і радасці ў веры, 26каб
хвала ваша ў Хрысце Езусе памножылася праз мяне, калі я зноў прыйду да вас.

27Толькі вядзіце жыццё, годнае Евангелля Хрыстовага, каб я, калі прыбуду
і ўбачу вас ці калі буду далёка, пачуў пра вас, што вы трываеце ў адным Духу.
Аднадушна змагайцеся за веру ў Евангелле 28і ні ў чым не палохайцеся
праціўнікаў. Гэта стане для іх прычынай згубы, а для вас – збаўленнем, і гэта ад
Бога. 29Вам дадзена дзеля Хрыста не толькі верыць у Яго, але і цярпець за Яго,
30пакольні вы вядзеце тую ж барацьбу, якую бачылі ўва мне і пра якую цяпер
чуеце ад мяне.

## 2 (1-30)

[1]Калі ёсць які заклік у Хрысце, калі ёсць якое падбадзёрванне любові, калі
ёсць якая лучнасць духа, калі ёсць якое сардэчнае спачуванне, [2]то дапоўніце
радасць маю, каб вы думалі тое самае, мелі тую самую любоў, былі
аднадушнымі і аднадумцамі. [3]Нічога не рабіце дзеля разладу ці дзеля пустой
пахвальбы, але ў пакоры лічыце адзін аднаго вышэйшым за сябе. [4]Не
клапаціцеся кожны толькі пра сваё, але і пра іншых.

[5]Няхай вашыя думкі будуць такімі, як у Хрысце Езусе.
[6]Ён, будучы ў постаці Бога,
не скарыстаў з таго, каб быць нароўні з Богам,
[7]але выракся самога сябе, прыняўшы постаць слугі,
прыпадобніўшыся да людзей.
І з выгляду стаўшы як чалавек,
[8]прынізіў сябе, будучы паслухмяным ажно да смерці,
смерці крыжовай.
[9]Таму Бог узвысіў Яго
і даў Яму імя па-над усялякае імя,
[10]каб на імя Езуса *схілілася кожнае калена*
стварэнняў нябесных, зямных і падземных,
[11]*і каб кожны язык вызнаваў*,
што Панам ёсць Езус Хрыстус
дзеля хвалы Бога Айца.

[12]Умілаваныя мае, як вы заўсёды былі паслухмянымі не толькі ў
прысутнасці маёй, але яшчэ больш цяпер, у час адсутнасці маёй, так з бояззю і
трымценнем здзяйсняйце сваё збаўленне. [13]Бо гэта Бог ёсць тым, хто чыніць у
вас жаданне і дзеянне паводле [свайго] ўпадабання. [14]Усё рабіце без нараканняў
і сумненняў, [15]каб вы сталі бездакорнымі, бязвіннымі і беззаганнымі дзецьмі
Божымі сярод ілжывага і падступнага пакалення, у якім вы ззяеце, як светачы ў
свеце. [16]Трымайцеся слова жыцця на пахвалу мне ў дзень Хрыстовы, што я не
дарма бег і не дарма працаваў. [17]Калі нават і пральюся як ахвяра на служэнне
веры вашай, то радуюся і цешуся разам з усімі вамі. [18]Таксама і вы радуйцеся і
цешцеся са мною.

[19]Маю надзею ў Пану Езусе, што ў хуткім часе прышлю да вас Цімафея,
каб я супакоіўся, даведаўшыся пра вас. [20]Бо я не маю іншага аднадумца, які б
так шчыра рупіўся пра вас. [21]Усе шукаюць свайго, а не таго, што Езуса Хрыста.
[22]Вернасць яго ведаеце, бо як сын бацьку, так ён пачаў служыць разам са мною
дзеля Евангелля. [23]Спадзяюся, што пашлю яго да вас адразу, як толькі вырашу
свае справы. [24]Маю надзею ў Пану, што і сам неўзабаве прыбуду да вас.

[25]Я палічыў патрэбным паслаць да вас Эпафрадыта, брата, свайго
паплечніка ў працы і змаганні, вашага пасланца і слугу ў патрэбе маёй, [26]бо ён
вельмі тужыў па ўсіх вас і вельмі непакоіўся з-за таго, што вы пачулі пра яго
хваробу. [27]І сапраўды, ён смяротна захварэў. Але Бог змілаваўся над ім, і не
толькі над ім, але і нада мною, каб я не меў дадатковага смутку. [28]Таму я тым
хутчэй паслаў яго, каб вы ўбачылі яго і ўзрадваліся зноў, і каб я быў без смутку.

[29]Прыміце яго ў Пану з поўнай радасцю і майце ў пашане такіх, [30]бо ён быў у небяспецы смерці за справу Хрыста, рызыкаваў жыццём, каб споўніць тое, у чым вы не маглі служыць мне.

## 3 (1-21)

[1]Урэшце, браты мае, радуйцеся ў Пану. Пісаць вам тое самае мне не цяжка, для вас жа гэта карысна. [2]Асцерагайцеся сабак, асцерагайцеся ліхіх работнікаў, асцерагайцеся абразання! [3]Мы прымаем абразанне, калі служым у Божым Духу і ганарымся ў Хрысце Езусе, а не спадзяёмся на цела. [4]Хоць я магу спадзявацца і на цела. Калі хто іншы спадзяецца на цела, то тым больш я, [5]абрэзаны на восьмы дзень, з роду Ізраэля, з пакалення Бэньяміна, габрэй ад габрэяў, паводле Закону – фарысей, [6]паводле руплівасці – ганіцель Касцёла, паводле справядлівасці Закону – беззаганны.

[7]Але што было для мяне набыткам, тое дзеля Хрыста я палічыў стратай. [8]Ды і ўсё лічу стратаю дзеля перавагі пазнання Хрыста Езуса, майго Пана. Дзеля Яго я ўсё страціў і лічу смеццем, каб набыць Хрыста [9]і апынуцца ў Ім не са сваёю справядлівасцю, якая паходзіць з Закону, але з тою, якая паходзіць з веры ў Хрыста, са справядлівасцю ад Бога, заснаванай на веры, [10]каб пазнаць Яго і моц Ягонага ўваскрасення і саўдзельнічаць у цярпеннях Ягоных, прыпадабняючыся да Ягонай смерці, [11]каб нейкім чынам дасягнуць уваскрашэння з мёртвых. [12]Не тое, каб я ўжо атрымаў гэта і ўжо стаў дасканалым, але я імкнуся атрымаць тое, дзеля чаго мяне здабыў Хрыстус Езус. [13]Браты, я не лічу, што ўжо атрымаў гэта, але толькі забываю тое, што за мною, і сягаю да таго, што наперадзе. [14]Паводле мэты імкнуся да ўзнагароды высокага паклікання Божага ў Хрысце Езусе.

[15]Будучы дасканалымі, давайце так думаць, а калі інакш думаеце, то Бог вам адкрые. [16]Аднак, да чаго мы ўжо дайшлі, таго і будзем трымацца.

[17]Наследуйце мяне, браты, і глядзіце на тых, хто паступае паводле ўзору, які маеце ў нас. [18]Бо многія, пра каго часта казаў вам, а цяпер нават з плачам кажу, паступаюць, як ворагі крыжа Хрыстовага. [19]Іхні канец – пагібель, іхні бог – чэрава, і слава іх – у сораме іхнім; яны думаюць пра зямное. [20]А наша айчына знаходзіцца ў нябёсах, адкуль мы чакаем Збаўцу, Пана Езуса Хрыста, [21]які пераменіць нашае прыніжанае цела на падабенства свайго праслаўленага цела праз дзеянне моцы, якой Ён можа падпарадкаваць сабе ўсё.

## 4 (1-23)

[1]Таму, мае браты ўмілаваныя, па якіх сумую, радасць і вянец мой, так трывайце ў Пану, умілаваныя!

[2]Прашу Эводзію і Сынтыхею быць аднадумцамі ў Пану. [3]Таксама і цябе прашу, блізкі сябра, дапамагай ім, бо яны змагаліся за Евангелле разам са мною і разам з Клементам ды іншымі супрацоўнікамі маімі, якіх імёны ўпісаны ў кнігу жыцця.

[4]Радуйцеся заўсёды ў Пану. Яшчэ раз кажу: радуйцеся! [5]Лагоднасць вашая
няхай будзе вядомая ўсім людзям. Пан блізка. [6]Ні пра што не турбуйцеся, але ў
кожнай малітве і просьбе з удзячнасцю адкрывайце вашыя просьбы Богу. [7]І
спакой Божы, які пераўзыходзіць усялякі розум, будзе аберагаць сэрцы вашыя і
думкі вашыя ў Хрысце Езусе.

[8]Нарэшце, браты, што ёсць праўдзівае, што годнае, што справядлівае, што
беззаганнае, што ласкавае, што хвалебнае, калі гэта нейкая цнота або нешта
годнае пахвалы – пра гэта думайце. [9]Чаму навучыліся, і што прынялі, і пачулі, і
ўбачылі ўва мне, тое чыніце, і Бог спакою будзе з вамі.

[10]Я вельмі ўзрадаваўся ў Пану, што вы зноў клапоціцеся пра мяне. Вы і
раней клапаціліся, але вам неставала нагоды. [11]Кажу гэта не таму, што патрэбу
маю, бо я навучыўся быць задаволеным тым, што ў мяне ёсць. [12]Я ўмею быць і
ў прыніжэнні, умею быць і ў дастатку; я прывучыўся да ўсяго: і насычацца, і
галадаць, і быць у дастатку, і цярпець нястачу. [13]Усё магу ў тым, хто ўзмацняе
мяне.

[14]Аднак вы добра зрабілі, раздзяліўшы са мною цярпенне маё. [15]Ведаеце
таксама вы, філіпяне, што ў пачатку [абвяшчэння] Евангелля, калі я выйшаў з
Македоніі, ніводная супольнасць, апроч вас адных, не далучылася да мяне ў
справе давання і прыняцця. [16]Вы таксама некалькі разоў дасылалі мне ў
Тэсалоніку, калі я быў у патрэбе. [17]Кажу не таму, што шукаю дару, але шукаю
плёну, які памнажаецца на карысць вашую. [18]Я атрымаў усё і маю празмерна. Я
забяспечаны ўсім, атрымаўшы ад Эпафрадыта дасланае вамі – салодкі водар,
ахвяру прыемную, якая падабаецца Богу. [19]А мой Бог няхай задаволіць
усялякую вашую патрэбу паводле свайго багацця ў хвале ў Езусе Хрысце.
[20]Богу ж і Айцу нашаму хвала на векі вечныя. Амэн.

[21]Прывітайце кожнага святога ў Хрысце Езусе. Вітаюць вас усе браты, якія
тут са мною. [22]Вітаюць вас усе святыя, а найбольш тыя, што з дому цэзара.

[23]Ласка Пана нашага Езуса Хрыста з духам вашым. Амэн.

---